


**7 ліпеня 2000 года ў аэрапорце Мінск-2 "бясследна" знік аператар ГРТ, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Зміцер Завадскі.**

## Сябры!

**Мы працуем у зоне павышанай рызыкі.**
**Тыя, хто адпаведна Закону абавязаны ахоўваць Канстытуцыю і наша права на свабоду інфармацыі,**

**- наўмысна ламаюць нашу здымачную апаратуру, адбіраюць і засвечваюць фотастужкі,**

**- праводзяць з намі ў «ціхіх кабінетах» альбо ў прыгараднай лесапаласе "выхаваўчыя" гутаркі,**

**- затрымліваюць, збіваюць, судзяць, запіхваюць карэспандэнтаў у каталажкі падчас выканання імі прафесійных абавязкаў.**

**Цяпер супрацоўнікі СМІ папаўняюць спісы грамадзян, якія «бясследна зніклі».**

***Журналісты, яднайцеся!***

**1** жнівень 2000
спецвыпуск

# змест



Праграма «Прэса і выбары» ініцыятыва БАЖ



4 чацвёртая ўлада

# Пра інфармацыйнае поле бітвы і нацыянальную годнасць

*Уладзімір Дзюба*



Сябры! Перад вамі першы сёлетні нумар «Чацвёртай улады», і мы рады гэтай сустрэчы. Сапраўды, даўно не бачыліся і пагаварыць ёсць пра што. Напрыклад, пра «ноў-хаў» для Беларусі, якое з'явілася насамрэч больш як 200 гадоў таму. Зразумела, не ў нас, а на «варожай» паловіне зямнога шара, дзе звіў сабе цёплае ды ўтульнае гняздо капіталізм. Паводле гэтага адкрыцця ўсе праблемы медыя, аказваецца, можна вырашыць з дапамогай вельмі простай формулы: СМІ павінны высвятляць адносіны толькі з грамадствам (чытачом, слухачом, гледачом). У нас жа ўсё наадварот: беларускія мас-медыя бясконца высвятляюць адносіны выключна з уладай. Бо апошняя, насуперак разумнаму сэнсу, прысвоіла сабе не толькі ролю галоўнага пасрэдніка, але і права на ісціну. Замест празрыстай, цывілізаванай формулы (СМІ – грамадства) нам навязваюць знявечаную, пабітую моллю ідэалагічную абракадабру.

І не дзіўна, што сёння кожнага здольнага думаць чалавека хвалююць пытанні: з якім багажом Беларусь ўвойдзе ў трэцяе тысячагоддзе, ці хутка афіцыйныя ды незалежныя сродкі масавай інфармацыі пазбавяцца палітычнай заангажаванасці, палярнасці меркаванняў і пачнуць выконваць чыста інфармацыйныя, адукацыйныя і выхаваўчыя функцыі?

Відавочна, што для гэтага патрэбна абноўленая сацыяльна-эканамічная мадэль грамадства, якое мусіць запатрабаваць якасны інфармацыйны прадукт. Пакуль жа падаткаплацельшчык, на чые грошы, між іншым, існуюць дзяржаўныя СМІ, у большасці сваёй моўчкі паглынае прапагандысцкі сурагат. Таму ўлюбёная фраза афіцыйных ідэолагаў пра «мудры народ, які ва ўсім разбярэцца,» – далёкая ад ісціны. Як сведчыць гісторыя, і народ мусіць памыляцца, што заўсёды прыводзіць да трагічных наступстваў. Узяць хаця б бальшавіцкую мараль, што навязвалі дзесяцігоддзямі, байкі пра адзіную мову, культуру, усеагульныя роўнасць і братэрства. На справе ўсё аказалася туфтой, але ў выніку ў многіх народаў былой савецкай імперыі з'явілася пачуццё нацыянальнай непаўнавартасці. І сённяшняя сітуацыя ў шматнацыянальнай Беларусі нагадвае монаэтнічную дзяржаву, дзе з'явіліся грамадзяне першага і другога гатунку. Апошніх, хто мае ўласнае меркаванне і не пагаджаецца з афіцыйным курсам, з дапамогай падкантрольных уладзе электронных СМІ абвясцілі памагатымі заходніх спецслужбаў і залічылі ў «отребье» ці «отморозки». Такое ж стаўленне і да непадкантрольных уладзе СМІ.

Паводле слоў былога дырэктара Інстытута журналістыкі Кіеўскага ўніверсітэта імя Т.Шаўчэнкі прафесара Анатоля Маскаленкі, сённяшні этап смуты нарадзіў такую жахлівую з'яву, як «кілеры пяра». Вельмі трапнае, актуальнае для большасці постсавецкіх краін вызначэнне. Як і тое, што «словам, а тым больш публіцыстычным, можна не толькі параніць, але і забіць чалавека... Называецца гэта «журналістыкай смяротнага прысуду». Хаця па вялікім рахунку журналістыка можа быць толькі адкрытай, праўдзівай ці — аднабокай. Трэцяга не дадзена. Што тычыцца стаўлення да СМІ беларускіх уладаў, то іх патрэбы можа задаволіць не проста аднабокая, кішэнная, а, скарыстоўваючы лексіку галоўнага тэлерэзанатара, «халуйская» журналістыка. Яна ў складзе невялікай брыгады штатных прапагандыстаў і абслугоўвае сённяшнюю ўладу. А вось ці хутка такая «спадчына» застанецца ў мінулым, залежыць ад сумлення і прафесіяналізму дэмакратычнага журналісцкага корпуса. Бо наша прафесійная годнасць ёсць вялікая перавага. Сведчаннем таму вынікі сацыялагічных апытанняў, дзе навідавоку пастаянны рост грамадскага даверу да незалежных СМІ і царквы. Менавіта ад нас у значнай меры залежыць, наколькі хуткім будзе працэс фарміравання новай духоўнасці і ўвасаблення ў жыццё нацыянальнай ідэі. Што, безумоўна, наблізіць грамадства да натуральнай патрэбы дэмакратычных зменаў.

Бясспрэчна, справа гэта вымагае вялікага цярпення і высілкаў. Бо свядомасць савецкіх людзей выспявае занадта марудна. І праблема тут не ў славутым менталітэце, а ў тым ладзе жыцця, які ім навязвалі больш як 70 гадоў. Сёння, на жаль, генетычны страх яшчэ прытупляе нацыянальную годнасць беларусаў. Каб пазбавіцца рабскай псіхалогіі, патрэбен час. Шлях да дэмакратыі ніколі не быў хуткім і лёгкім. І мы па праву можам ганарыцца тым, што наперадзе заўсёды ішлі прагрэсіўныя журналісты, асветнікі.

На адным з бажаўскіх семінараў я пазнаёміўся з дырэктарам Інстытута сусветнай свабоднай прэсы (штат Каліфорнія) Клейтанам Хасвэлам. Вось што ён распавёў пра ролю свабоднай прэсы ў іх дзяржаве:

«Цэнтральная прэса ў ЗША пазбаўлена палітычнай ды ідэалагічнай заангажаванасці, дзяржава ўвогуле не ўмешваецца ў яе справы. Як правіла, чытачы набываюць газеты з адзінай мэтай – даведацца, што адбылося ці адбываецца ў свеце. У першую чаргу іх цікавяць скандалы і сенсацыя. Газеты ў ЗША друкуюць самую разнастайную інфармацыю, у адным і тым жа выданні ёсць пазіцыя як кансерватараў, так і лібералаў. У цэнтральных газетах багата мясцовай хронікі. Адна з мэтаў СМІ – сачыць за праявамі карупцыі ва ўрадзе. З дапамогай прэсы людзі ведаюць, на што ідуць грошы грамадскіх фондаў. А фундаментальны пасыл любога закону аб СМІ – гэта доступ да інфармацыі. Напрыклад, закон ЗША «Аб дыфамацыі» мае прамую сувязь з законам «Аб доступе да інфармацыі». Адмова чыноўніка ў яе прадастаўленні разглядаецца як дыфамацыя. Вось галоўныя прынцыпы нашай прэсы.

Тыя ж выданні, якія даюць аднатэмную інфармацыю, страчваюць аўдыторыю і хутка абанкручваюцца.

Газеты ў грамадстве павінны выконваць ролю вартавых сабак, якія бароняць дзяржаву і інтарэсы грамадства.

Прэса ў нашым грамадстве выконвае вельмі значную ролю і з'яўляецца гарантам яго дэмакратычнасці і адкрытасці. Але штодня, на працягу 224-х гадоў, мы змагаліся за свабоду прэсы...»

Журналіст, як і кожны грамадзянін, павінен мець прававыя гарантыі. Больш за тое, ён павінен умела імі карыстацца і навучыць гэтаму, у першую чаргу, сваіх чытачоў. Як вядома, адно з галоўных грамадзянскіх правоў у дэмакратычнай дзяржаве – гэта права выбіраць сабе ўладу, якая павінна служыць тым, хто даверыў ёй свой лёс, верай і праўдай. Вось чаму дадзены выпуск «Чацвёртай улады» насычаны публікацыямі пад рубрыкай «Выбары-2000». Большасць з іх мае адукацыйны характар, і любы з артыкулаў, які, на вашу думку, будзе карысны чытачам, вы можаце надрукаваць у сваім выданні. Па першай просьбе мы дашлём вам электронны варыянт тэксту. Пэўная частка інфармацыі тут скіравана і на журналістаў, якія будуць асвятляць выбары. Бо, як паказала практыка і апытанне падчас семінараў, большасць з іх даволі слаба ці ўвогуле не валодае адпаведнымі тэхналогіямі.

У бліжэйшых выпусках бюлетэня вы ўбачыце як традыцыйныя, так і новыя рубрыкі: «Бумеранг», «Прэса пад прэсам», «Сам сабе адвакат», «Каментарый спецыяліста», «Школа выжывання», «Практыкум», «Семінары», «Весткі з рэгіёнаў» і, натуральна, «СМІ і выбары».

Мяркуючы па ўсім, Беларусь чакае працяглы выбарчы супер-марафон. Старт дадзены, фініш – у 2001-м. З улікам таго, што незалежныя беларускія СМІ з'яўляюцца ці не адзіным механізмам грамадскага кантролю за дзеяннямі выканаўчай улады, мы мусім гэту дыстанцыю прайсці. І прайсці годна.





# Демократические выборы в странах переходного периода

*Ханс-Георг Вик,*
руководитель КНГ ОБСЕ в Беларуси

Все страны, которые образовались в результате распада Советского Союза, сделали выбор в пользу президентской системы структуры своих государств, в результате чего баланс между законодательной и исполнительной властями имеет значительный перевес в пользу исполнительной. В случае несогласия с законодательной властью или в случае отсутствия партий большинства в парламентских институтах президентская власть может издавать указы. Партии —последователи бывшей КПСС имеют преимущество, так как сети их организаций охватывают всю страну, но им не хватает понимания плюралистического гражданского общества и лидерства для перехода страны на рыночную экономику. С другой стороны, демократическим партиям сложно устанавливать свои структуры по всей стране и формировать единую позицию для разрешения наиболее острых проблем общества. Однако в некоторых случаях развитие таких демократических политических партий затруднено из-за доминирующей президентской системы. Именно такая ситуация сложилась в Беларуси после конституционного конфликта, который разразился в связи с противоречивым референдумом (ноябрь 1996г.) по двум проектам изменения Конституции 1994г. Президент Лукашенко объявил, что результаты референдума являются обязательными, распустил Верховный Совет 13-го созыва и назначил 110 членов избранного, но распущенного после референдума совета депутатами новосозданной Палаты представителей двухпалатного парламента — Национального собрания.

Как известно, на 15 октября 2000г. назначены парламентские выборы, на которых политические партии, в частности те, чья программа основана на Конституции 1994г., могли бы иметь хорошие шансы, но только при условии, что будут достигнуты значительные улучшения в избирательной системе и рамочные условия. Модальность (суть, природа) выборов должна быть такой, чтобы они могли стать средством разрешения конституционных разногласий 1996г. Инициировать и содействовать диалогу между противостоящими сторонами —одна из задач Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси, которая была создана в 1997г. с целью оказания

помощи в развитии демократических институтов и наблюдения за выполнением страной ее международных обязательств в области прав человека.

28 июня 2000г. в Вене представители европейских институтов – ОБСЕ (Организация по безопасности и сотрудничеству в Европе), Совета Европы и Евросоюза, а также американской организации по избирательным системам (IFES) – обсуждали, какой прогресс был достигнут в Беларуси в области удовлетворения международных критериев для направления международных наблюдателей на предстоящие парламентские выборы. Эти вопросы рассматривались во время первой Технической конференции в апреле текущего года. Участники согласовали положения, определяющие критерии в четырех основных областях, где необходимо достигнуть прогресса – преимущественно путем диалога между правительством и оппозицией, – что позволило бы принять положительное решение по направлению международных наблюдателей в РБ. Это решение, как было сказано, будет принято в свете дельнейшего развития событий в августе 2000г.

Эти четыре важные критерия включают:

- прозрачность избирательного процесса, членство доверенных лиц политических партий в Центральной избирательной комиссии и нижестоящих комиссиях, а также получение должным образом заверенных документов подсчета голосов и результатов голосования;
- регулярный доступ политических партий к электронным СМИ;
- значимые функции нового парламента;
- меры взаимного доверия, включая значимые переговоры между правительством и оппозицией по «конституционным разногласиям» (этот термин использовался в Декларации Стамбульского саммита 19 ноября 1999г. в параграфе по Беларуси), и прекращение преследования политических оппонентов в судебном порядке.

По случаю сессии инициированного правительством общественно-политического диалога с участием президента Лукашенко 30 мая посол Ханс-Георг Вик, руководитель Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси, обозначил эти критерии как важные вехи для принятия решения европейскими международными институтами об участии или неучастии международных наблюдателей в выборах.

Само по себе международное наблюдение не является актом признания демократичности характера существующей политической структуры в Беларуси.

На фоне общей политической структуры белорусских государственных институтов на сегодняшний день, наиболее бросается в глаза главная характеристика этой структуры – это, конечно же, концентрация власти и контроля над законодательной, исполнительной и судебной властью в одних руках, а именно в руках президента. Характерно, что бюджет президентской администрации даже не выносится на тщательное рассмотрение парламента.

Ключевые вопросы для международной оценки ситуации в Беларуси напрямую связаны с переговорами между правительством и оппозицией: базой последних является Верховный Совет 13-го созыва – демократически легитимный и, таким образом, международно признанный парламентский орган. Посредством таких контактов можно достичь национального консенсуса в стране между теми, кто поддерживает истинные либеральные и демократические реформы, и теми, кто поддерживает авторитарные структуры. Такого рода переговоры велись при посредничестве КНГ ОБСЕ, в результате чего осенью 1999г. было достигнуто соглашение на доступ оппозиции к государственным СМИ. К сожалению, правительство вскоре дезавуировало это соглашение, вновь вызвав сомнения относительно своего желания начать серьезные переговоры с оппозицией.

Очевидно, что существуют различные стратегии работы внутри правительства и президентской администрации: для одной группы решением существующей и постоянно ухудшающейся экономической и денежной ситуации в стране может быть только интеграция с Российской Федерацией. Такой ход событий и действий может быть подвергнут сомнению, если парламентские, а позже президентские выборы приведут на политическую арену Беларуси оппонентов подобной стратегии. Другая школа мысли, у которой есть сторонники внутри официальных структур страны, имеет целью сбалансированные отношения как с Российской Федерацией, так и с Евросоюзом, и таким образом стремится инициировать ограниченные демократические реформы для того, чтобы расширить политическую базу правительственной политики в стране и покончить с трениями между Беларусью и Евросоюзом, а также Советом Европы, Парламентской Ассамблеей ОБСЕ, США и Канадой. Справедливые и демократические условия предстоящих выборов видятся основой достижения этой цели. Возвращение в Беларусь значимого политического присутствия членов Евросоюза, его структур и программ, а также растущего экономического сотрудничества посредством прямых инвестиций Запада в Беларусь может значительно усилить шансы на продвижение демократических и либеральных реформ.

Первоначальные реформы должны быть направлены на то, чтобы исключить возможность манипуляций и фальсификаций в ходе выборов, обеспечить избираемый парламент значимыми полномочиями, установить климат доверия – все это может быть достигнуто в результате соответствующих действий со стороны правительства. Очевидно, что уголовное преследование политических оппонентов, в том числе бывшего премьер-министра М.Чигиря, политических лидеров Н.Статкевича или В.Щукина является неприемлемым и неэффективным приемом в ходе проведения общественного диалога в стране.

Политической оппозиции пришлось проделать долгий путь, прежде чем принять видение и стратегию международного сообщества, представленного в Беларуси, в первую очередь, Консультативно-наблюдательной группой ОБСЕ, регулярными визитами Парламентской тройки европейских институтов и, в частности, Адриана Северина, Председателя Рабочей группы по Беларуси Парламентской ассамблеи ОБСЕ.

Изначально считалось возможным достичь соглашения с президентом о возвращении к Конституции 1994г. Тем не менее предпринятые с этой целью в 1997г. попытки международных посредников оказались безуспешными, что привело к введению значительных политических и экономических санкций. Еще одна безуспешная стратегия была разработана в Беларуси самой оппозицией и предполагала навязать стране проведение альтернативных президентских выборов, а потом уже добиваться их международной поддержки. Такая тактика действий могла бы привести к падению международного признания Лукашенко, утратившего свою демократическую легитимность в середине июля 1999г. в связи с истечением срока президентских полномочий в соответствии с Конституцией 1994г. (В результате внесенных в 1996г. изменений в Конституцию РБ, как известно, срок президентских полномочий был продлен еще на 2 года.) В результате та тупиковая ситуация, которая сложилась между двумя антагонистическими силами, сохранилась. Сегодня выход из этого тупика возможен либо через применение силы, либо путем переговоров, основывающихся на общих целях и задачах – проведении свободных и справедливых парламентских и президентских выборов, соответственно осенью 2000г. и осенью 2001г. Такой ход мысли, такая стратегия превалирует, хотя постоянно ставится под сомнение из-за неопределенности намерений членов правительства Лукашенко.

2 июля 2000 г. на Съезде демократических сил Беларуси была принята резолюция, связывающая участие в выборах с выполнением четырех условий:

- прозрачность избирательного процесса;
- регулярный доступ к СМИ;
- полномочия нового парламента;
- значимый «период мира».

Время покажет, которая из сторон победит, – сторонники неучастия в парламентских выборах по принципиальным причинам, которые, однако, готовы участвовать в президентских выборах в 2001 г., или же прагматики, которые примут решение об участии в зависимости от того, насколько будут выполнены условия о демократичности и открытости. В этой связи проходят широкие дискуссии с целью формирования альянсов едва ли не во всех округах.

29 июля 2000 г. в Беларуси состоится Третий Всебелорусский Съезд для того, чтобы мобилизовать – на беспартийной основе – народную поддержку независимости в стране, что, похоже, сейчас находится под угрозой в результате Союзного договора, подписанного между Российской Федерацией и Беларусью. Конгресс может перерасти в платформу для кандидатов в следующих президентских выборах.

До сих пор не состоялось никакого общественного обсуждения по национальному или международному значению свободных и справедливых выборов. Если бы такие условия и приемлемая прозрачность избирательного процесса, включая наличие сетей общественных и международных наблюдателей, были созданы, тогда кандидаты могли бы вступить в политическое соревнование за доверие избирателей. В этой связи не лишним будет напомнить, что оппозиционные политические партии, входящие в Консультативный совет, получили около 50% голосов во время последних парламентских выборов 1995/96 г. Если бы подобное повторилось в ходе предстоящих парламентских выборов – даже, если бы эти партии не получили соответствующего числа мест в парламенте, – такой результат явился бы четким политическим посланием для избирателей и всего мира о том, что белорусскому правительству необходимо проводить более сбалансированную внешнюю и внутреннюю политику, обеспечить больше демократии. Такой результат явно перевесил бы тот сдерживающий фактор, который рассматривается многими странами и рядом политических групп, — возможное получение правительством Лукашенко определенной степени демократической легитимности. Кампания, основанная на такой стратегии, уделила бы самое большое внимание завоеванию числа голосов в пользу демократического блока, и не столь большое тому, сколько мест в парламенте они получили, хотя последнее, конечно же, важно для формирования будущей внутренней политической ситуации в Беларуси.

Парламентская тройка, представленная во время своего последнего визита Европарламентом и Парламентской ассамблеей ОБСЕ, проинформировала в заключительном заявлении для прессы от 22 июня 2000г. о том, что при сложившихся обстоятельствах она тройка не смогла бы дать рекомендацию на направление международных наблюдателей. Еще многое должно быть сделано, чтобы удовлетворить минимальные требования для проведения свободных и демократических выборов в Беларуси. Некоторые неразрешенные вопросы связаны с прозрачностью избирательного процесса — такие, например, как включение доверенных лиц оппозиционных партий в состав Центральной избирательной комиссии, иные вопросы, связанные с установлением «периода мира». Проявление реальной готовности удовлетворить эти внутренние и международные требования будет являться определяющим фактором в решениях правительства относительно политической и экономической ориентации Республики Беларусь на международной арене.



Демократические выборы в странах переходного периода
публікацыі

# Кого и как выбирать? Избирательный процесс в плоскости политической целесообразности

*Сергей Альфер,*
Белорусский центр конституционализма и сравнительно-правовых исследований

Указом от 15 июля 2000 г. А. Лукашенко назначил выборы в Палату представителей, которые должны состояться 15 октября. Задолго до издания указа было ясно: он назначит выборы в свою палату своих депутатов. Основные политические силы страны, скорее всего, откажутся от участия в этих выборах. И поэтому можно быть уверенными, что и на этот раз мы получим палату, в которой будут заседать лица, озабоченные скорее своим персональным обустройством, чем делами государства.

Почему же парламент не может стать органом, где решаются государственные дела? Как и кого избирать в этот парламент? И нужно ли вообще избирать в него кого-либо?

Частичный ответ на это может дать анализ действующего законодательства о выборах и процедуры применения этого законодательства. На момент объявления выборов основным документом, который регламентирует всю процедуру выборов депутатов Палаты представителей, является Избирательный кодекс Республики Беларусь со всеми исправлениями и дополнениями от 4 июля этого года.

С принятием Избирательного кодекса стало ясно, что он остался последним на Европейском континенте избирательным законом, который по духу и букве полностью сохранил до боли знакомую нам с давних времен советскую избирательную процедуру. Все усовершенствования закона носят косметический характер и не меняют его сути. И это при том, что его разработчики публично заявили, якобы, они учли почти все рекомендации ОБСЕ. К сожалению, закон по-прежнему не в ладах с Конституцией (даже с президентским вариантом 1996 года) и общепризнанными избирательными процедурами.

В Избирательном кодексе закрепляется мажоритарная избирательная система абсолютного большинства: один избирательный округ — один депутат. По сравнению с пропорциональной и смешанной системами мажоритарная имеет ряд слабых мест, в частности, не позволяет партиям выставлять общенациональные списки своих кандидатов в депутаты, оставляет большие возможности для произвола избирательных комиссий, позволяет надежно контролировать все этапы прохождения кандидатов в депутаты по каждому избирательному округу, сохраняет значительное влияние местных властей на исход выборов и предоставляет им возможность отобрать наиболее угодных депутатов. Следует отметить, что в странах с неустоявшейся демократией мажоритарная система выборов не способствует развитию многопартийности и усилению влияния политических партий на жизнь общества.

К тому же при низкой явке избирателей (менее 50%) вероятность формирования представительных органов в правомочном составе резко уменьшается. В частности, это показали выборы депутатов Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, когда пришлось проводить повторную компанию. Но и в этом случае полные составы избраны не были, а во многих округах выборы не состоялись вообще и их жители не имели своих представителей в парламенте. Не удалось также сформировать несколько местных Советов и при проведении выборов в марте-апреле 1999 года.

Пропорциональная система, при которой избиратели голосуют за конкретные партийные списки, лишена этих недостатков. Кандидаты в депутаты получают в поддержку гораздо больше голосов избирателей, чем при голосовании по мажоритарной избирательной системе. Важно и то, что пропорциональная система позволяет сформировать в парламенте сильные партийные группы. Введение заградительного пункта в 3-5% позволяет отсечь малоавторитетные партии или партии, создаваемые только для проведения 1-2 своих лидеров в парламент. Парламент, сформированный по такому принципу, проводит политику государства в интересах всего народа, а не узкой группы власти.

Все европейские постсоциалистические страны ввели систему пропорциональных выборов в свое избирательное законодательство. Более того, даже Великобритания с ее консервативными многовековыми привычками выборов по мажоритарной системе относительного большинства (хотя при этом избиратели все-таки голосуют за представителя партии, а не только за конкретную «приятную»личность) обсуждает возможность введения пропорциональной системы выборов.

На наш взгляд, имеются все основания для перехода к смешанной (мажоритарно-пропорциональной) системе выборов, которая в настоящее время действует в большинстве постсоветских республик, в том числе и в Российской Федерации. Такая система учитывает недостатки и преимущества обеих систем, повышает роль партий в формировании парламента и одновременно позволяет голосовать за конкретного кандидата. К тому же введение смешанной избирательной системы не противоречит Конституции Республики Беларусь в обеих ее редакциях.

К чему же приводит использование закрепленной в законе устаревшей мажоритарно-советской системы выборов?

Выдвижение кандидатов в депутаты осуществляется политическими партиями, трудовыми коллективами и жителями путем сбора подписей. При этом в нарушение ст.69 Конституции другие общественные организации исключены из этого списка.

В законодательстве установлены существенные ограничения на выдвижение кандидатов в депутаты для политических партий. Политическая партия может выдвинуть своего кандидата в депутаты только при условии ее предварительной регистрации не позднее чем за шесть месяцев до назначения выборов и при наличии на территории соответствующего избирательного округа своей организационной структуры. Причем закон требует, чтобы эта структура была предварительно подвергнута государственной регистрации или поставлена на учет. Какой учет необходим для легализации партийных структур, мы, может быть, узнаем только из разъяснений Центральной комиссии по выборам. Тут возможны варианты. Если власть будет заинтересована, чтобы партии участвовали в выборах, то учет может быть партийный, а если нет – то государственный. В последнем случае большинство политических партий не смогут выдвинуть своих кандидатов по большинству округов.

Еще сложнее обстоит дело с выдвижением кандидата в депутаты путем сбора подписей избирателей. Организаторам предстоит пройти длинный и сложный путь. Любая ошибка или оплошность на этом пути грозит снятием кандидата с дистанции.

Несмотря на определенную либерализацию (по сравнению с нормами, действовавшими в 1999 году во время местных выборов) требований к проверке достоверности собранных подписей, предлагаемая процедура остается весьма жесткой. Проверке подлежат не менее 20% подписей граждан в подписных листах. При нахождении более чем 15% недостоверных проводится повторная проверка еще 15% подписей. И только при нахождении еще 15% недостоверных подписей из числа проверенных все подписи, собранные инициативной группой, не учитываются и соискатель не регистрируется в качестве кандидата в депутаты. Таким образом, установление чуть более 5% от общего числа недостоверных подписей лишает гражданина права продолжать избирательную гонку. Необходимо отметить, что разработан большой перечень (более 10) случаев, когда подписи граждан в подписных листах признаются недостоверными. И только 4 из них можно отнести к избирательному мошенничеству, а остальные – к невнимательности инициативной группы. Выборку подписных листов осуществляет избирательная комиссия по своему усмотрению. Кандидаты в депутаты и их доверенные лица не наделены правом присутствовать при этой проверке, что повышает элемент субъективизма и не даст возможности оспорить результаты проверки.

И все же при добросовестной работе инициативной группы трудно будет найти в списках 60-80 недостоверных подписей. Однако следует учесть, что закон позволяет исключить кандидата из избирательной гонки более простым способом. Скажем, какой-либо из подписантов по согласованию с соответствующим органом пишет в окружную комиссию заявление, что его принуждали к подписи или, что не менее страшно, ему предлагали за это деньги. Это заявление станет бесспорным основанием для нерегистрации того, за кого собирали подписи. Что ни говори, но «гибкая» у нас власть — любой закон может использовать с максимальной пользой для себя.

Основным субъектом избирательного процесса в Беларуси являются трудовые коллективы. Что это за образование, в законе не обозначено: ничего об этом не говорят ни Гражданский, ни Трудовой кодексы, зато это «что-то» наделено правом выдвигать кандидата в депутаты. В этом направлении мы уверенно шагаем рядом с Кубой и Северной Кореей. Закон не устанавливает, чтобы лицо, выдвигаемое кандидатом, работало в трудовом коллективе. Более того, кандидат может жить в другом городе, может вообще не появиться на собрании коллектива, который может его никогда не увидеть, но... выдвинуть. Примерно так в советские времена выдвигали списочников, представленных органами КПСС. Фактически это – «зеленая улица» для выдвижения кандидатов от власти. А вот оппозиционным или независимым кандидатам использовать подобный способ будет практически невозможно: собрание на предприятии может объявить только его руководитель, инициатива же трудового коллектива реально имеет возможность быть «задушенной» на корню.

Выдвижение кандидатов в депутаты парламента через трудовые коллективы нарушает конституционный принцип равенства. Так, если для выдвижения кандидата путем сбора подписей необходимо собрать их 1000, то в трудовом коллективе на собрании должно присутствовать всего лишь 300 работников, т.е. кандидат при голосовании простым большинством может быть выдвинут всего 151 избирателем, а если вместо собрания проводить конференцию представителей, то и 20-30 избирателями.

Не исключено, что возможность выдвижения кандидатов трудовыми коллективами оставлена и по такой «страховочной» причине: власти понимают, что в случае бойкота выборов оппозиционными партиями выдвижение можно будет осуществить только в «сговорчивых» трудовых коллективах. Именно так и произошло в ходе местных выборов 1999 года, когда в результате их бойкота демократическими силами более 90% кандидатов были выдвинуты именно трудовыми коллективами.

Весьма удачной для властей является и положение закона, которое допускает возможность отмены решения о выдвижении кандидатов в депутаты трудовыми коллективами, общественными объединениями, собраниями избирателей. Оно открывает простор для давления структур власти на тот или другой коллектив с целью отмены первоначального решения.

Налицо, кстати, и политика так называемых «двойных стандартов» у разработчиков закона и у принимавших его депутатов. Мотивируя очевидное неконституционное исключение общественных объединений из перечня субъектов избирательного процесса, они объясняли, что в уставах этих

объединений не записано, что они занимаются политикой. Но ведь и в уставах всех предприятий тоже не записано, что их трудовые коллективы сплошь заняты политической деятельностью. Таким образом, возобладал не принцип законности, а — политической целесообразности.

Закон гласит: все расходы на проведение выборов берет на себя государство; запрещается прямое или косвенное финансирование или оказание материальной помощи избирательной кампании кандидатов в депутаты. Такое запрещение, будучи направленным на создание равных возможностей для всех кандидатов, приводит к практически полному незнанию избирателями своих кандидатов в депутаты и провоцирует команды кандидатов к нарушению ограничительных статей закона.

Каждый кандидат может нарушать закон по-своему. Задолго до официального открытия избирательной гонки часть депутатов Палаты представителей начала агитационную работу по своему переизбранию. По почтовым ящикам раскладываются не имеющие выходных данных (а следовательно – незаконные) календарики, отчеты о проделанной депутатской работе, поздравления с праздниками и т.д. И все это на скромную депутатскую зарплату?! Происходит все при молчаливом поощрении государственных органов. Это и понятно: ведь не зря с самой высокой трибуны было сказано, что для «своих» будут созданы самые благоприятные условия...

Голосование избирателей также будет проходить в соответствии с опробованными в последние годы нормами — они надежно обеспечивают «выбор» избирателями нужного депутата. Это – досрочное и голосование «на дому». Описание их достойно отдельной статьи. Стоит лишь заметить, что минимизировать возможные нарушения можно будет, если наладить действенный общественный контроль за ходом выборов.

Отдельного описания также стоит процедура подсчета голосов. До внесения «диалоговых» поправок в Избирательный кодекс наблюдатель мог присутствовать при подсчете голосов избирателей. Сейчас он на законных основаниях может находиться... за дверью комнаты для подсчета голосов и получить лишь готовые результаты голосования. Добрая избирательная комиссия по своему усмотрению может, конечно, разрешить ему посмотреть, как подсчитывают голоса. А может и не разрешить, что более реально. Это только в Швеции за последние 50 лет не было ни одной фальсификации избирательного процесса и, вероятно, всего пара-тройка мелких нарушений. У нас же при низкой правовой культуре общества и сильной зависимости избирательных комиссий от структур власти это – обыденное явление.

По мнению большинства специалистов, явно завышенной для нынешних условий является норма, определяющая пятидесятипроцентный барьер явки избирателей в первом туре выборов для признания их состоявшимися. Такой высокой планки практически не осталось на европейском континенте. Это противоречит принципу свободных выборов, когда избиратель сам решает, участвовать ли ему в выборах и за кого голосовать (ст. 65 Конституции). Кроме того, преодоление этого барьера на практике едва ли реально без нарушений закона избирательными комиссиями по большинству избирательных округов в Минске и других крупных городах. Уменьшение этой планки во втором туре до двадцати пяти процентов может решить эту проблему лишь частично.

Не надо быть глубоким аналитиком, чтобы догадаться, кому это выгодно. Если речь идет об избрании состава парламента, то он всегда будет «полуживой», с постоянным «недобором». А если и будет сформирован, то только при «дружеской поддержке» властей.

Как видим, ничего хорошего не сулит нам Избирательный кодекс. Он делает нас по сути статистическими единицами в избирательной кампании. Причем, и это следует особо отметить, независимо от того, примем мы участие в выборах или не примем.

Самое главное, что Избирательный кодекс фактически выражает только интересы власти: она назначает выборы и организует их, образует свои избирательные комиссии, выдвигает своих кандидатов в депутаты. Представители же политической оппозиции и независимые от власти кандидаты скорее всего окажутся зрителями этого спектакля. Найдутся десятки поводов, чтобы снять их кандидатуры с избирательной дистанции. При таком избирательном законодательстве демократам наглухо закрыта дорога во власть. Неизменными победителями в подобных избирательных кампаниях будут исключительно кандидаты от власти. Избиратели, решившие пойти на такие «выборы», должны отдавать себе в этом отчет. А стоит ли проводить выборы в парламент, который не имеет никаких властных полномочий и никем в демократическом мире не признается, это уже другой вопрос...









# Парламент: орган улады ці дэкарацыя ўлады?

Юры Хадыка,
прафесар

Добра вядома, што пытанне аб функцыях будучага парламента Беларусі стала адным з чатырох умоў правядзення роўных і справядлівых выбараў у 2000 годзе. Гэтыя чатыры ўмовы – усталяванне клімату даверу шляхам спынення судовага пераследу па палітычных матывах, вольны доступ апазіцыйных партый да дзяржаўных СМІ, дэмакратычны выбарчы закон ды закон аб парламенце як адзіным важнейшым заканадаўчым і прадстаўнічым органе – былі падтрыманыя міжнароднымі арганізацыямі. Тым не менш яны сталі непераадольным камянём на шляху перамоўнага працэсу паміж фактычнай уладаю ў Беларусі і апазіцыяй.

Беларусь яшчэ не жыла ва ўмовах дэмакратыі. Палітычная культура яе насельніцтва пакідае жадаць лепшага. Гэта тычыцца не толькі шырокіх электаральных масаў, якія арыетуюцца на акцэнты дзяржаўных СМІ. Летуценныя палітычныя тэорыі і гіпотэзы, што цыркулююць нават у апазіцыйных колах, таксама вельмі часта з'яўляюцца плёнам гэтай культуры. Прыкладам такіх фантазій з'яўляецца даволі папулярная думка пра неабходнасць удзелу ў парламенцкіх выбарах на ўмовах сённяшняй улады.

Вартаснае абвяржэнне гэтай фантазіі неаднаразова прыводзілася ў незалежнай прэсе. Кошт, які будуць вымушаны заплаціць дэмакратычныя партыі на такіх выбарах, шматкроць пераўзыходзіць тыя набыткі, што могуць быць дасягнутыя. Сапраўды, не выключана, што дзесятак-другі найбольш лагодных апазіцыянераў здолеюць стаць дэпутатамі другой ПП. Ці трапяць яны туды – цалкам залежыць ад волі і жадання правіцеля-ўсядзержца, паколькі ягоныя даручэнцы будуць кантраляваць выбарчую кампанію і падлічваць галасы. Але платаю за гэта будзе легалізацыя вынікоў дзяржаўнага перавароту 1996 г., усіх законаў і пагадненняў, якія былі ратыфікаваныя першай ПП. У тым ліку і тых, што абмяжоўваюць суверэнітэт Беларусі. Якія перавагі дасць падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. стварэнне невялічкай апазіцыі ў палаце – зусім не зразумела. Хутчэй за ўсё – ніякіх, калі не зменіцца агульная сітуацыя.

Абвергнуць выбарныя фантазіі магчыма таксама зыходзячы з дзяржаўна-прававых меркаванняў. Тым, хто вывучаў марксісцка-ленінскую «філасофію», трэба нагадаць, а недасведчаным — паведаміць, што ў гэтай філасофіі цэлы раздзел меў назоў «Гістарычнае ў лагічным і лагічнае ў гістарычным». Што справядліва. Таму мае сэнс нагадаць галоўныя этапы развіцця дэмакратыі як формы дзяржаўнага ўладкавання. Каб зразумець, што менавіта нагадвае існуючы ў Беларусі інстытут, які носіць назоў «Нацыянальны сход».

Дэмакратыя пачыналася з простых і зразумелых формаў. Агора ў Грэцыі, трыбы ў старажытным Рыме, веча ў Полацку і Ноўгарадзе, альтынг у скандынаўскіх краінах – гэта былі проста народныя сходы. Пытанні вырашаліся крыкам, бразганнем зброяй ці галасаваннем чарапкамі разбітага посуду. Праўда, удзельнічаць у сходзе мелі права толькі поўнавартасныя грамадзяне. Тыя, хто плаціў падаткі і насіў зброю. Ні жанчыны, ні чужаземцы, ні жабракі такога права не мелі.

Такая сістэма кіравання дзяржаваю была вельмі недасканалай. Шмат якія пытанні проста немагчыма было вырашыць. Сход расколваўся на групоўкі – партыі. Пачыналася варажнеча і барацьба за дамінаванне. Тады ўладу захоплівала нейкая моцная асоба і усталёўвала тыранію. Кіраванне дзяржаваю спрашчалася. Спрэчкі спыняліся, а незадаволеных знішчалі або выганялі прэч. І тады пачыналася злоўжыванне ўладаю, а народ пачынаў марыць пра вяртанне недасканалай дэмакратыі.

Старажытныя рымляне лепш за другіх удасканалілі сістэму прымітыўнай дэмакратыі. Яны першыя перайшлі да прадстаўнічых органаў улады, калі шараговы выбаршчык дэлегуе свае права вырашаць дзяржаўныя пытанні выбранай асобе. Справядлівы грамадзянскі парадак прывёў да эканамічнага і ваеннага росквіту дзяржавы. І багацце загубіла Рэспубліку. Ёй на змену прыйшла манархія, фармальна абмежаваная рэспубліканскімі інстытутамі. Але наяўнасць Сената зусім не замінала гэтай манархіі быць неабмежаванай.

Іронія гісторыі ў тым, што ўсходняя дэспатыя, якая прыйшла на змену Свяшчэннай Рымскай імперыі (вядомай у нас не пад сваім імем – Візантыя), у сярэдзіне 15-га стагоддзя запазычыла ў яе некаторыя прадстаўнічыя інстытуты, што генетычна ўзыходзілі да старажытнарымскай дэмакратыі. Пры султане Асманскай імперыі існаваў дарадчы орган – дыван. З вельмі абмежаванымі правамі. Але ён меў права адхіліць султана ад улады, калі таго Бог пазбаўляў розуму. Сведкам такога выпадку быў наш зямляк князь Юры Збаражскі, які ўзначальваў пасольства Рэчы Паспалітай у Стамбуле ў пачатку 17-га стагоддзя.

Адваротны шлях ад манархіі да дэмакратыі заняў шмат стагоддзяў. Толькі ў Новы час намаганнямі многіх пакаленняў дэмакратычныя інстытуты былі істотна ўдасканаленыя, а выбарчае права стала ўсеагульным. Асноўныя правілы, якім павінна адпавядаць сапраўдная дэмакратыя, простыя і ясныя. Гэта – падзел і ўзаемны кантроль выканаўчай, заканадаўчай і судовай галінаў улады. Гэта – свабода слова і інфармацыі. Гэта –

улік, а не падаўленне думкі меншасці. Гэта – дакладнае выкананне законаў і г.д.

Нічога такога не было ў палітычнай практыцы беларусаў. Таму А. Лукашэнка, які перамог на адносна свабодных выбарах 1994 г., здолеў так лёгка сказіць вобраз беларускай дэмакратыі, якая толькі нараджалася. Перадумовы для яе скажэння былі закладзены Канстытуцыяй 1994 года, якая ўвяла пасаду прэзідэнта і абмежавала паўнамоцтвы парламента. Сам інстытут прэзідэнцтва таксама ёсць плён Новага часу. Ён з'явіўся як гарант ад палітычнай няўстойлівасці, уласцівай калектыўным органам улады, сярод якіх найважнейшым з'яўляецца парламент. Пасля развалу таталітарнай камуністычнай сістэмы Беларусь занадта хутка прайшла этап парламенцкай рэспублікі. Тэлебачанне добра данесла да гледача недахоп парламентарызму на прыкладзе зусім недэмакратычнага Вярхоўнага Савета 12 склікання. Але не папярэдзіла аб небяспецы аўтарытарызму, які лёгка вырастае на глебе прэзідэнцкай рэспублікі з «моцным» прэзідэнтам. Асабліва, калі ёсць сацыяльныя групы, зацікаўленыя ў такім перараджэнні. Так Беларусь пайшла шляхам сярэднеазіяцкіх рэспублік былога СССР.

І вельмі хутка паўтарыла гістарычны шлях ад прымітыўных форм дэмакратыі да дэкаратыўных дарадчых органаў тыпу султанскага дывану. Нават горш за тое. Дыван утвараўся з уплывовых саноўнікаў, якія мелі рэальныя ўладныя паўнамоцтвы. У адрозненне ад іх Палата прадстаўнікоў, хоць і прызначалася асабіста прэзідэнтам, складаецца з асобаў неўплывовых, якія не адыгрываюць адметнай ролі ў структуры ўладнай «вертыкалі». Яны не маюць нават права заканадаўчай ініцыятывы. І выконваюць чыста дэкаратыўную ролю прыкрыцця заганных з'яваў аўтарытарызму – свавольства, карупцыі, неэфектыўнасці эканомікі і г.д.

Імкнуцца да выбрання ў такі орган, што не можа адправіць у адстаўку таго ці іншага правадыра нават у выпадку, калі Гоcпад Бог пазбавіць яго розуму, — для дэмакратаў чыстае шаленства, што б ні гаварылі прыхільнікі выбарчых фантазій.

Беларусь занадта актыўна эксплуатавала рэферэндумы – адну з формаў прымітыўнай дэмакратыі. Да таго ж з парушэннем нават тых недасканалых законаў, якія рэгламентавалі правядзенне саміх рэферэндумаў. Таму і прыйшла да элементарнай тыраніі. Паўтарыла гістарычны досвед старажытнагрэцкіх гарадоў-полісаў. І досвед гэты адназначна гаворыць пра тое, што ў адносінах з тыранамі ёсць толькі два вырыянты – альбо барацьба, альбо ўслужэнне. Tercium non datur – трэцяга не дадзена.

Магчыма, што ўсё гэта не пераконвае тых, хто жадае ўдзельнічаць у выбарчым фарсе, запланаваным правіцелем і К°. Для такіх людзей не існуе логікі і марксіцка-ленінскай мудрасці – гістарычнае ў лагічным, лагічнае ў гістарычным. Адмова ад удзелу ў выбарах – гэта цяжкае і мужнае рашэнне. Яно вымагае ад дэмакратычных партый не расслаблення, а энергічнай асветніцкай дзейнасці. Абароны народных інтарэсаў у чыстым выглядзе, без дамешкаў падазрэнняў у кар'ерызме і ў змаганні за ўладу пры любых абставінах. Гістарычныя арэлі занадта нахіліліся ў бок тыраніі, каб пакінуць выбар для прыстойнага чалавека.

Беларускія дэмакраты не першыя (і, думаю, не апошнія), хто вымушаны звяртацца да байкоту. У 1984 г. польская Салідарнасць таксама байкатавала выбары ў штучны камуністычны Сойм, якія праводзіліся пад поўным кантролем улады. Але не склала рукі, не стала «маргінальнай». Менавіта адмова ўдзельнічаць у квазівыбарах у якасці «хлопчыкаў для біцця» ва ўмовах гаспадарчага развалу, сацыяльнага і гістарычнага крызісу дазволіла Салідарнасці атрымаць 100%-ную перамогу праз 5 гадоў, калі ўмовы для выбараў сталі сапраўды дэмакратычнымі. Проста былі рэалізаваныя тыя чатыры ўмовы, якія сёння катэгарычна адмаўляецца выканаць беларускі рэжым. Не думаю, што ў гэтага рэжыму лепшыя перспектывы, чым яны былі ў рэжыма генерала Ярузельскага.

Дый палітычная культура беларускага электарату паступова ўзрастае. Пра гэта сведчаць вынікі апошняга сацыялагічнага даследавання прафесара А. Манаева. На пытанне «Ці падтрымліваеце Вы патрабаванні, вылучаныя апазіцыйнымі партыямі на перамовах з беларускімі ўладамі пад згідаю АБСЕ?» былі атрыманыя наступныя адказы:

даць апазіцыі доступ да дзяржаўных СМІ, у тым ліку да тэлебачання. «За» – 44,6%, «супраць» – 22,4%;

спыніць пераслед людзей, што нязгодныя з сённяшнім палітычным курсам. «За» – 59,1%, «супраць» – 11,1%;

унесці такія змены ў Выбарчы кодэкс, якія б забяспечылі правядзенне свабодных і справядлівых выбараў. «За» – 62,0%, «супраць» – 9,1%;

змяніць паўнамоцтвы парламента такім чынам, каб прыманыя ім законы былі абавязковыя для выканання ўсімі органамі ўлады. «За» – 55,4%, супраць – 8,5%.

Гэта – вялікі прагрэс. Народ ужо разумее, што патрабаванні апазіцыі справядлівыя. І самае галоўнае, ён разумее, што існуючы Нацыянальны сход не з'яўляецца паўнавартасным заканадаўчым органам. Яшчэ крыху — і ён зразумее, што лепшай формай удзелу ў квазівыбарах з'яўляецца байкот. Гэта і ёсць доказ усім скептыкам, якія не адмаўляюцца крытыкаваць рашэнне Кангрэсу дэмакратычных сілаў не ўдзельнічаць у выбарчым фарсе. І адказ на пытанне, што вынесена ў назву артыкула.





# Прэса пад прэсам

# The press under press

**13** сакавіка/march

Органы выканаўчай улады Брэсцкай вобласці атрымалі ліст, падпісаны намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама Валерыем Захарчанкам (№498 ад 04.05.1999 г.), у якім пералічваліся перыядычныя выданні для падпіскі бібліятэкамі вобласці. Спіс быў складзены ў адпаведнасці з рашэннем аблвыканкама №16 ад 25.01.1999 г. камісіяй па бібліятэчных фондах і ўтрымліваў тыя газеты і часопісы, якія можна (?) чытаць карыстальнікам публічных бібліятэк (разам 33 выданні). Зацвердзілі пералік Валерый Захарчанка і загадчыца аддзела культуры Пінскага гарвыканкама Тамара Лазіцкая.

У спісе няма практычнаніводнага незалежнага выдання, нават такіх вядомых газет, як «Народная воля» і «Свободные новости». Дакумент, аднак, рэкамендуе выпісваць 14 выданняў Расійскай Федэрацыі, сярод якіх «Правда» і «Труд», але адсутнічаюць тыя незалежныя расійскія выданні («Московский комсомолец», «Новая газета», «Общая газета», «Неделя»), якія дазвалялася выпісваць раней.

Згаданы ліст парушае арт. 3 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», які гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь свабоду слова і права на атрыманне інфармацыі з розных крыніцаў. Парушае і арт. 34 Канстытуцыі РБ.

**14** сакавіка/march

Рэдактара баранавіцкай незалежнай газеты «Шаг» Аляксандра Лабкова выклікалі на размову з намеснікам гарадскога пракурора М. Квашніным. Падчас сустрэчы журналісту былі выказаныя прэтэнзіі з нагоды артыкула «У цесноце ды ў крыўдзе». Прадстаўнікі праваахоўных органаў не мелі ніякіх прэтэнзій да фактаў, пададзеных у артыкуле, нагодай для выкліку ў пракуратуру сталася манера падачы матэрыялу.

Такім чынам парушаныя арт. 33 і 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія гарантуюць свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выяўленне.

**15** сакавіка/march

Адміністрацыя радыёзавода «Спадарожнік» (г. Маладзечна) не дазволіла карэспандэнту незалежнай «Рэгіянальнай газеты» прысутнічаць на канферэнцыі працоўнага калектыву. На просьбу рэдактара газеты Аляксандра Манцэвіча абгрунтаваць адмову намеснік дырэктара завода Віктар Шаляпін адказаў, што ніякага абгрунтавання не будзе.

The administration of the state-owned Sputnik radio factory in Molodechno, Minsk region, denied a correspondent with the local independent Regionalnaya Gazeta the entrance to a conference of the factory's working collective. When requested by the newspaper's chief editor Alexander Mantsevich to justify the denial, factory deputy director Viktar Shaliapin said he was not going to provide any explanations.

---

Старшыня Гродзенскага гарвыканкама Анатоль Пашкевіч не даў дазволу на ўзгадненне размяшчэння рэдакцыі незалежнай газеты «Рэпарцёр». Падставай для адмовы сталася нібыта адсутнасць у гарвыканкаме інфармацыі аб праве прыватнай фірмы на валоданне памяшканнем, дзе меркавалася размясціць рэдакцыю. Нягледзячы на тое што, звяртаючыся ў гарвыканкам паўторна, незалежныя журналісты дакументальна засведчылі правы ўласнасці прыватнай фірмы на будынак, гарвыканкам адмовіў ва ўзгадненні размяшчэння рэдакцыі.

The Chairman of Grodno City Executive Committee, Anatol Pashkevich, did not approve the location of offices of the local independent newspaper Reporter. Authorities said they did not have confirmation that a private company which was to lease spaces to the newspaper, had had the right for the building. On these grounds, the newspaper's legal address was not approved.

**17** сакавіка/march

Кіраўніцтва брэсцкага спартыўнага клуба «Будаўнік» адмовіла карэспандэнту незалежнай газеты «Брестский курьер» у інфармацыі з нагоды паездкі ў Японію зборнай Беларусі па хакеі на траве, што з'яўляецца парушэннем арт. 33 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», які рэгламентуе выпадкі, калі магчымая адмова ў інфармацыі, а менавіта: наяўнасць дзяржаўнай, камерцыйнай або іншай адмысловай ахоўнай таямніцы.

The directors of the Brest Sports Club Budaunik denied a correspondent with the local independent newspaper Brest Courier information about the participation of the Belarus Field Hockey Team

in a tournament in Japan. The Sports Club violated Article 33 in the Law on Press which guarantees the access to information.

**18 сакавіка/march**

У Магілёве пачаўся судовы працэс над незалежнымі выданнямі. Магілёўскі аблвыканкам перавысіў свае паўнамоцтвы, бо паводле заканадаўства права вырашаць пытанні спынення дзейнасці СМІ мае Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку.

Яшчэ ў лістападзе 1999 г. аблвыканкам звярнуўся ў Гаспадарчы суд Магілёўскай вобласці з зыскам, адным з патрабаванняў якога была ліквідацыя газет «Деловые ведомости» і «Любой каприз».

Сваімі дзеяннямі Магілёўскі аблвыканкам парушыў арт. 16 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», згодна з якім дзейнасць сродку масавай інфармацыі можа быць спынена толькі паводле рашэння заснавальніка або судом па зыску рэгіструючага органа або пракурора. Магілёўскі аблвыканкам не з'яўляецца ані заснавальнікам згаданых газет, ані рэгіструючым органам.

**20 сакавіка/march**

Дзяржкамітэт Рэспублікі Беларусь па друку выдаў папярэджанне №11 рэдакцыі незалежнага штотыднёвіка «Наша Ніва» аб парушэнні арт. 5 закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» ў частцы распальвання нацыянальнай нецярпімасці і варожасці. Нагодай для папярэджання стаўся артыкул «Зайздрошчу Чачэніі», апублікаваны ў рубрыцы «Лісты ў рэдакцыю».

На думку незалежных юрыстаў, аўтар ліста (і чытач газеты) не хацеў узбудзіць нянавісць да Расіі, як неабгрунтавана лічыць Дзяржкамдрук, а толькі звярнуць увагу на бядотнае становішча беларускай мовы, беларускай культуры. І пафас ліста скіраваны не супраць рускіх, а супраць «манкуртаў» (акрэсленне Чынгіза Айтматава), якія забыліся на свае карані, сваю бацькаўшчыну, якія саромеюцца размаўляць на мове сваіх бацькоў.

«Наша Ніва» накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд зыск аб прызнанні папярэджання несапраўдным.

The Belarus State Committee on the Press issued a warning to the independent weekly Nasha Niva charging the newspaper with stirring up national hostility, under Article 5 in the press law. The warning was issued for publishing a reader's letter titled «I Envy Chechnya». Independent lawyers believe the letter's author was not intent on *stirring up the hatred towards Russia, rather it attempted to draw* attention to the miserable status of the Belarusian language and culture. The letter did not target the Russians, but those Belarusians *that had forgotten their roots.*

Nasha Niva appealed against the warning to the Supreme Economic Court.

**25 сакавіка/march**

Прымусова абмяжоўваецца продаж у розьнічным гандлі незалежнай «Рэгіянальнай газеты» (г. Маладзечна), што з'яўляецца парушэннем дамовы аб распаўсюджванні газеты паміж рэдакцыяй і Смаргонскім раённым аддзяленнем «Белсаюздруку». Паводле начальніка аддзялення «Белсаюздруку» Святланы Вітkоўскай, спачатку прадаецца толькі дзяржаўная рэспубліканская прэса, а «Рэгіянальная газета» павінна трапляць у продаж толькі на наступны дзень, у суботу, калі большая частка афіцыйных рэспубліканскіх газет ужо рэалізаваная.

Сваімі дзеяннямі начальнік Смаргонскага аддзялення «Белсаюздруку» парушыла арт. 3 Закона РБ «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Згодна з законам, «дзяржава разглядае сістэму сродкаў масавай інфармацыі як падставу рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду слова і інфармацыі».

The sales of the Molodechno-based independent Regionalnaya Gazeta were restricted in breach of the agreement between the newspaper and Smorgon district department of the state-sponsored distribution monopoly Belpost. According to the department chief Svetlana Witkouska, a priority is given to the state-owned press, while Regionalnaya Gazeta reaches kiosks on the next day only, when a major part of the government newspapers is sold out.

Svetlana Witkouska violated Article 3 in the Law on Press which guarantees the citizens' right to receive timely information.

---

Падчас святкаванняў 82-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі (Дня Волі) у Мінску супрацоўнікі сілавых структур і «невядомыя» людзі ў цывільным затрымалі 35 прадстаўнікоў беларускіх і замежных СМІ. З гэтай нагоды Беларуская асацыяцыя журналістаў прыняла заяву, у якой, у прыватнасці, сказана:

«З асаблівай стараннасцю адбывалася затрыманне акрэдытаваных у краіне карэспандэнтаў расійскіх тэлеканалаў ГРТ, РТР і НТВ. З мэтай не дапусціць падрыхтоўкі тэлесюжэтаў была пашкоджаная тэлеапаратура. Супрацоўнікі здымачных груп, іншыя журналісты замежных і беларускіх СМІ былі прымусова прывезеныя на тэрыторыю вайсковай часткі МУС на вул. Маякоўскага ў Мінску.

Нікому з затрыманых не былі паведамленыя прычыны затрымання, некаторыя журналісты падвяргаліся няпраўнаму асабістаму вобыску, усім было забаронена паведаміць пра сваё затрыманне ў рэдакцыі, а таксама сваякам і знаёмым. Рабіліся спробы надзяваць кайданкі. Засвечваліся адзнятыя фотастужкі.

...Чарговы раз улады Беларусі груба парушылі канстытуцыйнае права грамадзян на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў і палітычнае жыццё краіны, а таксама закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Арт. 39 гэтага закона абвяшчае, што журналіст мае права «прысутнічаць у раёнах стыхійных бедстваў, аварый і катастроф, мясцовасцях, дзе абвешчанае надзвычайнае становішча, на мітынгах і дэманстрацыях, на месцы іншых грамадска важных падзеяў і перадаваць адтуль інфармацыю».

Беларуская асацыяцыя журналістаў выказала рашучы пратэст супраць адкрытай і цынічнай расправы над журналістамі, якія выконваюць свае прафесійныя абавязкі.

Асацыяцыя заклікала журналісцкую супольнасць і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі праявіць салідарнасць у змаганні за свабоду слова на Беларусі.

During the opposition-staged demonstration to mark the anniversary of the Belarusian People's Republic in the capital Minsk, riot police and plainclothes agents detained 35 Belarusian and foreign journalists. The detainees were taken to a police field station, held there for several hours, and released without explanation or apology. The Belarusian Association of Journalists made a statement saying that police had specifically targeted reporters from the Russian television channels ORT, RTR, NTV. Their cameras and films were damaged or exposed. The Belarus authorities grossly violated the right of citizens to receive information about the workings of the government and political developments in the country. Article 39 in the Law on Press sets out the right of journalists to be present at the site of public events and report from there. The Belarusian Association of Journalists expressed a decisive protest against violations of the rights of journalists and urged the resignation of Belarus Interior Minister.

---

Адначасова з падзеямі ў Мінску ў Віцебску па загаду кіраўніцтва абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў быў арыштаваны пазаштатны карэспандэнт рэспубліканскай газеты «Народная воля» Валеры Шчукін. Журналіст працаваў у Віцебску, выконваючы заданне рэдакцыі, калі падчас інтэрв'ю яго схапілі і запіхнулі ў машыну. Пасля двух сутак папярэдняга арышту рашэннем суддзі Чыгуначнага раёна Віцебска С. Труфан журналіст атрымаў яшчэ восем сутак адміністратыўнага арышту. Разам – 10 сутак пазбаўлення волі за выкананне сваіх прафесійных абавязкаў.

В. Шчукін лічыць, што пастанова раённага суддзі была прынятая са страшэннымі парушэннямі Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнародных прававых нормаў: Шчукін не мог карыстацца паслугамі адваката, быў асуджаны закрытым судом у міліцэйскім пастарунку, не атрымаў магчымасці азнаёміцца з матэрыяламі справы і г.д.

Valery Schukin, correspondent with the independent daily Narodnaya Volya, was arrested by Belarus police in Vitebsk while covering an opposition protest action. He was detained and forced into a police van. After spending two days in a pre-trial jail, Schukin was tried and sentenced to 8 days of administrative detention. The trial was held at a police station.

**27 сакавіка/march**

Беларуская асацыяцыя журналістаў зладзіла прэс-канферэнцыю, на якой прэзідэнт асацыяцыі Жанна Літвіна паведаміла, што БАЖ правяла ўласнае расследаванне падзеяў 25 сакавіка.

У канферэнцыі ўдзельнічалі карэспандэнты больш як 25 незалежных СМІ, а таксама прадстаўнікі праваабарончых арганізацый. Выступілі журналісты, якія былі затрыманыя і абшуканыя 25 сакавіка. Прагучала прапанова патрабаваць адстаўкі міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Сівакова, а таксама звярнуцца ў суд па факце няпраўнага затрымання журналістаў і байкатаваць асвятленне ў сродках масавай інфармацыі дзейнасці праваахоўных органаў.

The Belarusian Association of Journalists held a news conference on detentions of journalists during the March 25 demonstration. BAJ President Zhanna Litvina told reporters that the association had conducted its own investigation of the incident. The BAJ urged the immediate resignation of Belarus Interior Minister Yury Sivakov, and demanded to bring those responsible for detaining the journalists to criminal accountability.

---

У гэты ж дзень у судзе Савецкага раёна г. Мінска пачаліся судовыя працэсы над грамадзянамі і журналістамі, затрыманымі 25 сакавіка.

З самага ранку чакаў суда карэспандэнт незалежнай газеты «Наша Свабода» Алег Груздзіловіч, якога выпусцілі з міліцыі позна ўначы. Запрошаных на суд або прывезеных у міліцэйскіх машынах было так шмат, што чарга да карэспандэнта «Нашай Свабоды» дайшла толькі ў 15 гадзін. Гэта пры тым, што разгляд адной справы цягнуўся ў сярэднім ні больш як 10 хвілін. Судовы разбор справы Груздзіловіча быў адкладзены, бо ён запатрабаваў выклікаць сведкаў абароны і заявіў хадайніцтва аб запрашэнні адваката.

Паўторны суд адбыўся 31 сакавіка. Падчас апытання сведкаў-міліцыянтаў, якія нібыта затрымлівалі Груздзіловіча, высветлілася, што яны блытаюцца ў паказаннях і не могуць патлумачыць, чаму ўжылі фізічную сілу і затрымалі карэспандэнта, які выконваў заданне рэдакцыі. Суд апраўдаў А. Груздзіловіча.

---

Беларуская асацыяцыя журналістаў перадала ліст у Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў у сувязі з затрыманнем журналістаў 25 сакавіка. У дакуменце, у прыватнасці, зазначался, што ўчынкі супрацоўнікаў міліцыі і вайскоўцаў МУС падпадаюць пад дзеянне артыкула 172-1 КоАП (а менавіта – уціск свабоды масавай інфармацыі). Акрамя таго, яны парушаюць п. 8 Рашэння Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў №175 ад 17.06.1998, якое абавязвае ГУУС Мінгарвыканкама забяспечваць умовы для бесперашкоднага выканання журналістамі іх прафесійных абавязкаў падчас грамадска-палітычных акцыяў.

The Belarusian Association of Journalists filed to Minsk City Council a letter in connection with the unjustified detentions of journalists on March 25. In this letter, BAJ charged police officers with violating Article 172(1) in the Common Code which protects the freedom of information. Police also violated a resolution of the Minsk City Council

that sets out to ensure conditions for unhindered operations of journalists during mass actions and demonstrations.

З'явіліся першыя водгукі міжнародных і праваабарончых арганізацый на падзеі 25 сакавіка ў Мінску.

Саюз журналістаў Літвы: «... Літоўскія журналісты, шчыра жадаючы прагрэсу і палітычнага замірэння ў вашай краіне, заклікаюць уляды Беларусі ўрэшце зразумець ролю прэсы і спыніць змаганне супраць журналістаў як прадстаўнікоў грамадскасці краіны».

Расійскі Фонд абароны галоснасці выказаў сваю салідарнасць з беларускімі калегамі і папрасіў падзякаваць МУС Рэспублікі Беларусь «за ўмацаванне карпаратыўнай салідарнасці беларускіх, расійскіх і польскіх журналістаў. Дзякуй, што вы ненавідзіце іх усіх і затрымліваеце гуртам, не зважаючы на грамадзянства...»

Міжнародная федэрацыя журналістаў (МФЖ), якая налічвае больш за 450.000 сваіх сяброў па ўсім свеце, выказала вялікую занепакоенасць у сувязі з масавымі арыштамі беларускіх і замежных журналістаў 25 сакавіка ў Мінску. «МФЖ разглядае дзеянні праваахоўных органаў як наступ на свабоду прэсы ў Беларусі. Мы заклікаем беларускія ўлады зрабіць захады дзеля неадкладнага расследавання і прыцягнення вінаватых да адказу».

Міжнародная Амністыя (Amnesty International): «Гэта няўклюдная спроба прымусіць змоўкнуць беларускіх і замежных журналістаў папаўняе і так сумны спіс парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі... Душачы ў суботу права беларусаў на мірныя сходы і права журналістаў асвятляць гэтую падзею, уляды парушылі асноўныя правы чалавека.»

Міжнародная Ліга Правоў чалавека звярнулася з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі з нагоды падзеяў 25 сакавіка. Копіі ліста былі адасланыя генеральнаму пракурору А. Бажэлку і міністру ўнутраных спраў Ю. Сівакову. «Тое, як ваш урад абышоўся з дэманстрантамі, больш за 500 з якіх былі арыштаваныя... з'яўляецца адкрытым здзекам з міжнародных стандартаў свабоды прэсы і сходаў, парушэннем унутранага заканадаўства Беларусі і нахабным парушэннем абавязку, ...узятага на сябе беларускай дэлегацыяй перад ААН у жніўні 1999 г.»

Рэпарцёры без межаў (Парыж) выказалі пратэст у лісце на імя міністра юстыцыі Генадзя Варанцова. «Мы заклікаем Вас зрабіць усё, што магчыма, каб пакласці канец гвалту супраць прэсы», — заявіў у лісце Роберт Менар, генеральны сакратар арганізацыі. Ён таксама нагадаў, што Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай Міжнароднай канвенцыі ў Грамадзянскіх і Палітычных Правах, 19 артыкул якой гарантуе свабоду слова і інфармацыі.

Major international journalists and human rights groups made strong protests against the detentions of journalists during the March 25 demonstration in Minsk. International Federation of Journalists (IFJ), Amnesty International, Reporters Without Frontiers, International League for Human Rights, Russian Glasnost Defense Foundation, Lithuanian Union of Journalists sent their protest letters urging the Belarus authorities to bring those responsible of detentions to accountability.

**28 сакавіка/march**

Газета «Звязда» паведаміла, што вядзецца службовае расследаванне па факце затрымання журналістаў 25 сакавіка.

З публікацыі вынікае, што загаду затрымліваць карэспандэнтаў і канфіскоўваць відэаматэрыялы не было, а прымяненне ў дачыненні да журналістаў фізічнай сілы прэс-цэнтр Міністэрства ўнутраных спраў патлумачыў «выпадкам ... напружанага становішча, маральна-псіхалагічнага стану вайскоўцаў МУС, якія перажывалі зневажальныя выбрыкі з боку грамадзян-хуліганаў».

У звязку з рэпрэсіямі супраць работнікаў СМІ, якія мелі месца 25 сакавіка ў Мінску, Праўленне Беларускай асацыяцыі журналістаў прыняло звароты: да генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Алега Бажэлкі, старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіла Падгайнага, старшыні Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў Уладзіміра Папкоўскага, міністра ўнутраных спраў Юрыя Сівакова і начальніка галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама Барыса Тарлецкага.

Паводле меркаванняў незалежных юрыстаў, у дзеяннях вайскоўцаў унутраных войск МУС, супрацоўнікаў міліцыі і невядомых асоб у цывільным, якія затрымоўвалі журналістаў, ёсць прыкметы шэрагу злачынстваў:

наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне маёмасці (арт. 96 КК),

наўмыснае лёгкае цялеснае пашкоджанне ці пабоі (арт. 110 КК),

перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў (арт. 167 КК).

У звязку з гэтым Генпракурору А. Бажэлку было прапанавана па адпаведных фактах узбудзіць крымінальную справу.

Адзначаючы, што выпадкі парушэння заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі і аб міліцыі з боку супрацоўнікаў МУС паўтараюцца, Беларуская асацыяцыя журналістаў запатрабавала, каб міністр ўнутраных спраў Ю. Сівакоў добраахвотна сышоў у адстаўку.







# Прэса ў ланцугах — дэмакратыя ў труне

Гэта толькі адзін са шматлікіх лозунгаў, падрыхтаваных Беларускай асацыяцыяй журналістаў да пікету, які адбыўся ў Мінску 26 чэрвеня. Мінгарвыканкам дазволіў правесці акцыю ў раёне плошчы Бангалор, дзе і сабраліся прадстаўнікі рэспубліканскіх газет.

Адна з галоўных праблем, якая хвалюе дэмакратычных журналістаў, заключаецца ў тым, што незалежныя і дзяржаўныя якія б забаранялі смяяцца, у нашай дзяржаве пакуль няма. Таму акцыя мусіла прайсці з гумарам. Любы ахвочы мог сфатаграфавацца ля сімвалічнай «Сцяны галоснасці» з «нячэснымі» журналістамі. Падчас пікету працаваў пункт бясплатнай раздачы локшыны. Зразумела, ад імя некаторых найбольш адыёзных дзяржаўных СМІ. Электарат меў магчымасць выбраць гатункі на любы густ, напрыклад, локшыну «Рэзанатарскую», «Афіцыйна-панарамную», «Дыяложную» і г.д. Карацей, акцыя прайшла весела.




Толькі засмучае колькасць яе ўдзельнікаў, якіх было крыху больш за дваццаць. І гэта пасля падзей 25 сакавіка (Дзень Волі), калі рэпрэсіям з боку сілавых структураў падвергліся 36 супрацоўнікаў айчынных і замежных СМІ. Відаць, для кансалідацыі беларускіх журналістаў гэтага недастаткова. Атрымоўваецца, што сапсаваная апаратура, выкручванне рук, знявага, пагрозы і некалькі гадзін, праведзеных ў спартыўным ангары на тэрыторыі аднаго з вайсковых падраздзяленняў, – дробязь. Пачакаем, калі нас будуць дастаўляць на абнесены калючым дротам стадыён?..

выданні працуюць у няроўных эканамічных умовах. Першым намнога больш даводзіцца плаціць за арэнду памяшканняў, друкарскія і паліграфічныя паслугі. Сёлета дзяржаўнае прадпрыемства «Белпошта» другі раз павысіла тарыфы на дастаўку газет падпісчыкам. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года кошт гэтых паслуг для незалежных выданняў падняўся на 400-600%. А з кошту, які рэдакцыя ўстанаўлівае для падпісчыкаў, «Белпошта» забірае 50-70%, што значна больш, чым у газет, якія фінасуюцца ўладнымі структурамі.




Дэмакратычныя журналісты выступілі не толькі супраць эканамічнай дыскрымінацыі, але і прававога бязмежжа. Толькі ўвесну (сакавік, красавік, май) вядучым незалежным выданням Беларусі пракуратурай і Дзяржкамдрукам вынесена 10 папярэджанняў. Аднак дэкрэтаў,

Прэс-цэнтр БАЖ

# Посидим, поговорим, понаблюдаем...



*Юрий Топорашев,*
эксперт Центра правовой защиты СМИ

Удивительное, можно даже сказать, извините, плюралистическое предложение поступило в адрес БАЖ 15 июня этого года: Центральная комиссия РБ по выборам и проведению республиканских референдумов пригласила нас поучаствовать во вновь создаваемом Наблюдательном совете по информационным спорам.

Из прилагаемых к этому предложению-приглашению документов исходило, что вышеозначенное наблюдательное ведомство создается при Центризбиркоме для проведения в нашей стране исключительно честных и прозрачных, предельно открытых и справедливых, конечно же, сугубо демократических выборов.

А чтобы разные подозрительные СМИ и всякие «нечестные» журналисты не мешали нашей заботливой власти осуществить задуманное, создать равные условия для всех без исключения кандидатов, которые захотят донести до народа свои мудрые мысли и грандиозные планы через газеты, радио и ТВ, и организуется Наблюдательный совет. Как только кто нашкодит, ущемит священные права депутатов на гласность, так тут же бдительные наблюдатели из Совета не только зафиксируют подобное безобразие, но и дадут «...рекомендации, заключения, подлежащие обязательному немедленному рассмотрению руководителями средств массовой информации» (Положение «О Наблюдательном совете по информационным спорам при Центральной Комиссии»).

Чуете, чем пахнет? Правильно, неприятностями. Возможно, крупными. Но не для всех, конечно...

Состав членства этого наблюдательного органа не оставляет сомнений, кто именно и в первую очередь удостоится «рекомендаций» и «заключений».

Вот он, этот состав: представитель Института права Национальной Академии наук Республики Беларусь, представитель юридического факультета БГУ, представитель факультета журналистики БГУ, представитель Государственного комитета по печати, представитель Национальной государственной телерадиокомпании, представитель Белорусского союза журналистов. А в качестве демонстрации торжества демократии и учета разных мнений к этой мощной представительской колонне государственных и окологосударственных учреждений пристегнут последней строкой и «представитель Белорусской ассоциации журналистов».

Нам не понравился такой расклад. И поскольку в «сопроводиловке» Центризбиркома содержалось любезное приглашение к подаче наших встречных предложений «...по названному проекту», мы откликнулись обстоятельным и аргументированным ответом.

Его суть кратко сводилась к следующему: состав Наблюдательного совета, на наш взгляд, должен формироваться по принципу равного представительства – государственников должны уравновешивать демократически ориентированные наблюдатели; для гарантии объективного и непредвзятого рассмотрения информационных споров наиболее приемлема такая форма голосования, как консенсус; ну и, само собой разумеется, вся деятельность Наблюдательного совета должна быть предельно прозрачной и информационно доступной.

При таких условиях мы готовы были войти в Наблюдательный совет.

Спустя некоторое время, 17 июля с.г., Центризбирком ответил. Состав Наблюдательного совета неприкасаем и пересмотру не подлежит, так как в нем «...должны быть высококвалифицированные специалисты...».

Ясное дело: во всемирно известных белорусских общественных организациях нет ни специалистов в области законодательства о СМИ, ни опытных журналистов... Все они сосредоточены в Госкомпечати, на государственном ТВ и так далее.

И никаких консенсусов! «Поскольку в этом случае один член Совета может заблокировать принятие Советом решения,» – режут правду-матку составители ответа Центризбиркома. По их непоколебимому мнению, «...решения должны приниматься общепринятым демократическим путем – большинством голосов». Вот так. Как говорится – наше вам с кисточкой!

Вычислить, каким будет это «большинство», – плевое дело (смотри состав Наблюдательного совета).

К 1 августа с.г. мы должны были сообщить фамилию нашего посланника в Наблюдательный совет. Пока не сообщили...

Решение – направлять или не направлять – обсуждалось долго, вдумчиво и всесторонне. Рассматривались все «плюсы» и «минусы». С одной стороны, вроде бы и нужно было находиться внутри этого наблюдательного органа. Хотя бы для того, чтобы громко прокричать, когда начнется очередное наступление на независимую прессу. С другой стороны, очевидно: то будет «крик вопиющего в пустыне». И таким образом наше соучастие в фактически государственной структуре надзора за СМИ может служить лишь одному: созданию иллюзии плюрализма в деятельности Наблюдательного совета при Центризбиркоме.

Кому это выгодно?..





# Пішыце праўду і толькі праўду

*Вячаслаў Герасіменка,*
журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ 13-га склікання

Раней у справе асвятлення выбарчых кампаній для журналістаў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі ніколі не было праблем. Усё рухалася па шаблону: фарміраваліся выбарчыя ўчасткі і камісіі, потым, згодна з законам, гэтай справай займаліся выканкамы мясцовых Саветаў і працоўныя калектывы. А тыя, хто выконваў арганізацыйныя абавязкі, самі наведвалі рэдакцыі мясцовых газет і радыё, каб праінфармаваць будучых выбаршчыкаў. Але далейшае аператыўнае ды аб'ектыўнае інфармаванне насельніцтва, лічу, цалкам залежала і сёння залежыць ад журналістаў.

І тое, што народ дагэтуль амаль нічога не ведае пра сапраўдныя функцыі свайго мясцовага дэпутата, яго магчымасці і здольнасці, віна не столькі электарату, колькі работнікаў СМІ. На жаль, людзі да канца не ўсвядомілі, што сваімі рукамі яны выбіраюць свой лёс, сваю будучыню, — і гэта адна з галоўных прычын гаротнага ці наогул жабрацкага жыцця. Паспрабую абгрунтаваць сваю думку.

У вялікую палітыку мяне «выштурхнула» ў студзені 1990 года. Тады калектывы трох прадпрыемстваў вылучылі мяне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Ведаючы мой свабодалюбівы і незалежны характар, мясцовая ўлада ўстрывожылася. Сярод маіх калег-журналістаў знайшоўся «патрыёт», які пачаў на старонках раёнкі паліваць мяне брудам. Неўзабаве адгукнуліся некалькі пенсіянераў ды кіраўнікоў розных інстанцый. Паводле іх меркаванняў, мяне нельга было дэлегіраваць у вышэйшую прадстаўнічую і заканадаўчую ўладу. Маўляў, яму нават мятлу нельга даверыць. Аргументы раённага чынавенства, як заўсёды, былі банальныя: «Што вам дасць гэты карэспандэнт? Ну, зменіць шыльды з рускай мовы на беларускую, а што яшчэ? Раёну патрэбныя будаўнічыя матэрыялы, тэхніка» і г.д. Такая шалёная прапаганда супраць мяне стала магчымай толькі таму, што раённая газета «За новыя рубяжы» (сёння «Петрыкаўскія навіны») поўнасцю падпарадкоўвалася райкаму партыі і райвыканкаму.

Спробы ж іншых журналістаў выказаць наконт маёй кандыдатуры аб'ектыўную думку так і не былі рэалізаваныя. Свавольства партыйных босаў і цэнзура не дазволілі мне стаць дэпутатам Вярхоўнага Савета. А вось у раённы Савет мяне абралі адразу. Сюды ўвайшлі кіраўнікі калгасаў, прамысловых прадпрыемстваў, школ. Вядома, усе яны былі падначаленыя раённай уладзе, таму на сесіях мусілі дружна галасаваць за ўсе прапановы «зверху». Быў перыяд, калі пасады старшыні Савета і выканкама сумяшчаліся ў адной асобе. Гэта быў часовы перыяд рэальнай, на першы пагляд, залежнасці ўлады ад народа, які выбіраў і кантраляваў дэпутатаў, дэпутаты выбіралі і кантралявалі ўладу, улада працавала для народа. Але так ўсё выглядала чыста тэарэтычна.

Кіраўнікі калгасаў ды прадпрыемстваў выбіралі старшынёй Петрыкаўскага райсавета і райвыканкама таго, каго «парэкамендавала» афіцыйная ўлада. Дэпутаты-начальнікі абіраліся народам па прынцыпе «шмат дадуць», але што можа даць дэпутат апроч рашэння ці пастановы, выгадныя таму, ад каго ён залежыць? На жаль, мясцовыя сродкі масавай інфармацыі такія тэмы не абмяркоўвалі ні тады, ні зараз.

Мінула дзесяць гадоў, але псіхалогія людзей і падыход рэгіянальных СМІ да асвятлення дзейнасці дэпутатаў не змяніліся. Наадварот, з умацаваннем прэзідэнцкай вертыкалі цэнзура мас-медыяў стала больш жорсткай.

3 мая 1995 года, калі я быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, мне ўдалося надрукаваць у раённай газеце толькі адзін артыкул. За гэты ж час з'явілася некалькі дзесяткаў артыкулаў, дзе пра мяне была толькі негатыўная інфармацыя. А той, хто ў 90-м паліў мяне брудам, неўзабаве быў прызначаны галоўным рэдактарам раённага выдання.

Узнікае пытанне: чаму ніхто з выбаршчыкаў не патрабуе праз мясцовае радыё ці прэсу справаздачы ад свайго дэпутата наконт яго канкрэтнай дзейнасці? Чаму пазіцыя «слугі народа» не адлюстроўваецца на старонках раёнкі?

Параўнальна нядаўна я наведаў «родную» рэдакцыю і прапанаваў узяць у мяне інтэрв'ю. Былыя калегі пераглянуліся і адказалі пытаннем: «Ты што, хочаш, каб нас звольнілі?» Не прафесійная годнасць, не пачуццё абавязку, а страх пануе ў душах гэтых людзей. Бог ім суддзя...

Набліжаюцца чарговыя выбары ў парламент узору 96-га года. Даўно чуюцца заявы, што кампанія будзе шматпартыйнай. Аднак незалежныя сацыялагічныя апытанні паказваюць, што выбаршчыкі амаль нічога не ведаюць пра палітычныя партыі, іх лідэраў і праграмы. Лічу, што гэта таксама недапрацоўка журналістаў. Што ім замінае сустрэцца хаця б з кіраўніком раённай арганізацыі ды задаць яму колькі пытанняў? Тым больш, што адпаведна Закону аб друку (арт.32) чытачы маюць права на своечасовае і аператыўнае атрыманне інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці. Аднак для такіх, з дазволу сказаць, журналістаў каманда «не пушчаць» стаіць вышэй за закон і патрэбы грамадства. На падаткі з якога, між іншым, уся дзяржаўная прэса і існуе.

Галоснасць і аб'ектыўнасць СМІ – адны з галоўных перадумоваў правядзення справядлівых дэмакратычных выбараў. Толькі калі гэта стане рэальнасцю?

P.S.
Ад рэдакцыі:

Рэальнасцю гэта стане тады, калі Беларусь мусіць вярнуцца ў цывілізаванае правовое поле. Усялякія «промні камунізму», «заклікі ільіча» ды «шляхі перамогі» проста адыдуць у нябыт. Тое, чым яны займаюцца зараз, называецца «напускаць пылу». Але многім чытачам ён пачыннае рэзаць вочы. Нездарма тыражы афіцыйных раёнак намнога ніжэйшыя, чым некаторых незалежных рэгіянальных газет. Існаванне падкантрольных, «вертыкальных» выданняў можна назваць штучным, бо сілкуюцца яны з дзяржаўнага бюджэту.

А што да прафесійнай годнасці і сумлення такіх, з дазволу сказаць, журналістаў, то маральных крытэрыяў для іх проста не існуе. Трапіўшы ў сістэму палітычнага прыгоннага права, яны старанна выконваюць ідэалагічны заказ. Куды, між іншым, уваходзіць і методыка цкавання, навешвання брыдкіх «ярлыкоў». З дапамогай маральна-псіхалагічных рэпрэсій улада заўсёды імкнулася запалохаць сваіх апанентаў.

Аднак тыя, хто гэтым займаецца, павінны помніць, што заўсёды прыходзіць судны дзень...

---

# Важен конечный результат...

*При голосовании досрочно и на дому – возможны фальсификации*

*Михаил Плиско,*
эксперт



**Всегда ли так было?**

До весны 1999 года институт досрочного голосования при избрании депутатов не применялся. О нем говорилось – и то вскользь – в принятом еще в 1991 году Законе о референдуме. В период относительно мирного демократического развития институт досрочного голосования не являлся средством обеспечения нужных результатов на выборах. Но, как говорят, «если ружье висит на стене в первом акте – то в последнем оно обязательно выстрелит». Именно так и произошло в Беларуси.

Впервые в полной мере власть опробовала институт досрочного голосования на ноябрьском референдуме в 1996 году. Необходимость организации такого голосования специально оговаривалась в указе Лукашенко «О мероприятиях по обеспечению подготовки и проведения республиканского референдума» от 28 октября 1996 года. Поскольку результат превзошел все ожидания, было решено включить его и в Закон о выборах депутатов местных Советов от 23 декабря 1998 года. В результате проталкивания выгодной для властей формы голосования оказалось, например, что на состоявшихся весной 1999 года выборах депутатов местных Советов 24% (!) избирателей Гродненской области «не смогли» находиться в день проведения выборов по месту своего жительства и проголосовали досрочно. Надо полагать, что это не рекорд, и на предстоящих парламентских выборах наиболее «сообразительные» представители исполнительной вертикали вместе с подконтрольными им избирательными комиссиями вполне могут его превзойти. Ведь для них важен конечный результат!

**Правовое регулирование**

Наряду с порядком формирования избирательных комиссий досрочное голосование является своеобразной «священной коровой», и нынешние белорусские законодатели ни за какие коврижки не согласились поменять его на более прогрессивную, применявшуюся даже в советские времена практику голосования по открепительным удостоверениям. Исполнительная власть прекрасно понимает, что организовать процесс наблюдения за законностью при досрочном голосовании и обеспечить сохранность избирательных бюллетеней значительно труднее, чем в день проведения выборов. Поэтому не случайно статья 53 Избирательного кодекса, регулирующая проведение досрочного голосования, составлена таким образом, чтобы максимальное количество избирателей могло принять участие в подобном голосовании. На протяжении 5 дней до дня основного голосования любой избиратель с 10 до 14 часов и с 16 до 19 часов может прийти на избирательный участок и проголосовать. Официального подтверждения причин невозможности прийти в помещение для голосования в день выборов не требуется. Такой же либерализм законодатель проявляет и в отношении избирателей, которые в день выборов хотят проголосовать на дому: им также не требуется подтверждения причин невозможности прибыть на избирательный участок (ст. 54 Избирательного кодекса). Важно отметить, что в упомянутых статьях говорится, что досрочное голосование и голосование на дому должно проводиться с соблюдением требований Избирательного кодекса. Это дает хоть какой-то шанс воспрепятствовать возможным фальсификациям со стороны избирательных комиссий.

Говорят, что пессимист – это информированный оптимист. Зная практику проведения выборов в местные Советы и референдума 1996 года и важность предстоящих парламентских выборов, можно с уверенностью сказать, что при существующем порядке формирования избирательных комиссий, полностью подконтрольном исполнительной власти, даже самое тщательное наблюдение за ходом голосования на избирательном участке в период досрочного голосования не является 100%-ной гарантией от подмены содержимого избирательных урн в вечернее или ночное время суток.

На предстоящих выборах бороться против нарушения закона при голосовании на дому станет немного легче, так как исполнительная власть согласилась с предложением участников общественно-политического диалога ограничить число переносных избирательных ящиков на избирательном участке до трех. Кроме того, избиратель вправе обратиться с просьбой об организации голосования по месту своего нахождения не позднее чем за два часа до истечения времени для голосования. Если учесть, что голосование прекращается в 20.00, то в некоторых случаях это обстоятельство может сыграть немаловажную роль.

Впервые, в отличие от выборов прошлых лет, права и обязанности лиц, которые осуществляют наблюдение за ходом избирательного процесса, изложены в тексте самого закона, а не подзаконного акта, принятого Центризбиркомом. Так, в статье 13 Избирательного кодекса прямо говорится о том, что наблюдатель вправе присутствовать при досрочном голосовании и голосовании по месту нахождения граждан.

**Как воспрепятствовать фальсификациям**

Чтобы успешно выполнить свою миссию, общественный наблюдатель должен быть беспристрастным и нейтральным, установить рабочие контакты с председателем, заместителем председателя, секретарем избирательной комиссии, другими ее членами, четко представлять, что входит в его права и обязанности, хорошо знать избирательное законодательство Республики Беларусь и руководствоваться им, иметь при себе необходимые для работы статьи Избирательного кодекса, бланки заявлений, актов и протоколов.

Закон (ст. 49 Избирательного кодекса) предоставляет общественному наблюдателю право обращаться с предложениями и замечаниями не только к председателю участковой комиссии и ее членам, но и в вышестоящую избирательную комиссию, а также в прокуратуру и другие государственные органы власти, которые обязаны рассмотреть поступившие к ним документы и в трехдневный срок дать ответ, а в день выборов – ответить немедленно. Если факты требуют проверки, то решения по ним должны приниматься не позднее чем в десятидневный срок. Все документы наблюдатель должен составлять как минимум в двух экземплярах: один экземпляр следует вручать адресату, второй – оставлять у себя. Поданные общественным наблюдателем документы должны быть приобщены избирательной комиссией к протоколу о результатах голосования (ст. 55 Избирательного кодекса).

При выявлении нарушения избирательного законодательства общественный наблюдатель должен в вежливой форме довести обнаруженный факт до сведения председателя, заместителя председателя избирательной комиссии и потребовать его устранения. Если обращение не возымеет действия, необходимо составить акт (заявление, протокол) о нарушении избирательного законодательства. Если нарушение носит существенный характер и может повлиять на результаты выборов на данном избирательном участке, наблюдатель должен обратиться в вышестоящую избирательную комиссию и в прокуратуру с соответствующим заявлением. При составлении акта (заявления, протокола) желательно, чтобы под ним подписались также свидетели данного нарушения. Если таковых не окажется, то он может быть составлен и подписан только самим наблюдателем.

В случае создания препятствий наблюдателю в выполнении его обязанностей он должен составить акт о том, что на данном избирательном участке могут иметь место фальсификации и подтасовки, так как избирательная комиссия в нарушение закона (ст. 13 Избирательного кодекса) препятствует его работе.

Наиболее существенным нарушением избирательного законодательства при досрочном голосовании и голосовании на дому может быть подмена содержимого избирательных урн. Воспрепятствовать этому – особенно при досрочном голосовании – трудно, но возможно. Что может сделать в этой ситуации общественный наблюдатель? В первую очередь он должен узнать, сколько избирателей проголосовало досрочно. Эти сведения можно получить в момент окончания времени, отведенного на досрочное голосование, а также в день проведения выборов, сразу же после опломбирования избирательных урн, т.е. перед началом голосования на избирательном участке. Полученные данные необходимо сравнить с количеством бюллетеней, которое находится в урнах, использовавшихся для досрочного голосования. Это можно сделать на законном основании, так как п. 2 ст. 55 Избирательного кодекса не предусматривает использования избирательных урн, применявшихся при досрочном голосовании, в день проведения выборов на избирательном участке, а количество бюллетеней, находящееся в них, должно подсчитываться после окончания голосования в первую очередь и отдельно от содержимого других избирательных урн. Если количество избирателей, проголосовавших досрочно, и количество бюллетеней в избирательных урнах для досрочного голосования значительно отличаются друг от друга, это может свидетельствовать о возможных фальсификациях, и в этом случае обязательно надо составить соответствующий протокол. Те же действия наблюдатель должен выполнить и при голосовании на дому.

Еще одним существенным нарушением при проведении досрочного голосования и голосования на дому могут стать негласные действия исполнительных властей и избирательных комиссий, особенно в сельской местности, которые побуждают избирателя прийти и проголосовать досрочно или на дому. Наблюдатель должен помнить, что подобные действия, какими бы благими намерениями они ни оправдывались, незаконны, так как в соответствии с Избирательным кодексом инициатива проголосовать досрочно или на дому может исходить только от самого избирателя.

Находясь на избирательном участке, наблюдатель должен удостовериться, что списки избирателей вывешены для всеобщего ознакомления и подписаны председателем и секретарем избирательной комиссии (ст. 21 и 19 Избирательного

